


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 9 (643)**
**Верасень 2019 г.**


## Новая кніга

*Зора Кіпель / укладанне, каментары Н. Гардзіенкі, Л. Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2019. 280 с. (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі эміграцыі: кн. 1)*

Пабачыла сьвет першая кніга ў новай сэрыі “Людзі эміграцыі” Згуртаваньня беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”. Як пазначана на вокладцы, сэрыя — “гэта ўшанаваньне памяці тых, хто адышоў, і магчымасьць сказаць дзякуй тым, што жывуць, суродзічам-беларусам – навукоўцам, мастакам, літаратарам, усім, хто цягам свайго жыцьця на чужыне працаваў і працуе дзеля пашырэньня беларушчыны. Кожная кніга сэрыі — гэта аповед пра жыцьцё і дзейнасьць асобы ў тэкстах, дакумэнтах, здымках”. І першая кніга напоўніцу ўвасабляе агучаныя заданьні.

Прысьвечанае гэтае выданьне Зоры Кіпель – адной з найбольш ведамых жанчынаў паваеннай эміграцыі, шматгадовай супрацоўніцы Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэкі, бібліёграфу, аўтарцы і ўкладальніцы дзясяткаў кнігаў і соцень артыкулаў, дасьледніцы сярэднявечнай беларускай літаратуры, арганізатарцы выставаў, актыўнай удзельніцы нацыянальных мерапрыемстваў. Яе імя ведалі і ў эміграцыі, і ў Беларусі, аднак інтэлектуальная спадчына Зоры Кіпель сёньня ўсё яшчэ маладасьледаваная і амаль не ацэненая на радзіме. Усьведамленьне гэтага і стала падставай для ўкладаньня гэтага тому.

Кніга пачынаецца біяграфічным нарысам, заснаваным на дакумэнтах, перададзеных у Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры і мастацтва. Аповед пра жыцьцё і дзейнасьць Зоры Кіпель багата ілюстраваны і яскрава сьведчыць пра розныя галіны яе навуковай, творчай, грамадзкай працы, сямейныя справы.

Біяграфічныя матэрыялы дапаўняюцца ўласнымі ўспамінамі спадарыні Зоры, сабранымі ў асобным разьдзеле.




Тут і невялікія згадкі з часоў лягераў Ды-Пі, і ўспаміны з працы ў Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэцы, і аповеды пра падарожжы, асабліва на Бацькаўшчыну ў 1990-х гадах.

Асноўную частку выданьня склалі навукова-дасьледчыя публікацыі Зоры Кіпель, упершыню сабраныя пад адной вокладкай. Яны разьмеркаваныя па рубрыках у адпаведнасьці з творчымі інтарэсамі аўтаркі: “Аб сярэднявечнай літаратуры”, “Кнігазнаўства”, Амэрыкана-беларускія сувязі”. Тут можна знайсьці тэксты, прысьвечаныя розным творам беларускай перакладной літаратуры XV—XVI стст. як паасобку, гэтак і разам, як зьвяе. У тым ліку артыкулы пра “Беларускага Трышчана”, што стаў аб’ектам асаблівай навуковай цікавасьці Зоры Кіпель, і тэкст якога яна выдала ў перакладзе на ангельскую мову. Важныя і артыкулы з гісторыі кнігазнаўства ды беларускага друку на Захадзе, дасьледаваньне, прысьвечанае побыту капітана Джона Сьміта ў Беларусі, аналіз амэрыканы ў творчасьці беларуска-амэрыканскіх пісьменьнікаў, а таксама спроба сыстэматызацыі зьвестак пра традыцыю Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай на эміграцыі.

Зразумела, што ў выданьне ўвайшла толькі асноўная, хіба што найбольш значная частка публікацыяў Зоры Кіпель. Дакладнейшае ўяўленьне пра яе творчасьць дасьць чытачу найпаўнейшая на сёньня Бібліяграфія дасьледніцы.

Сваёй актыўнай і разнастайнай працай Зора Кіпель пакінула выразны сьлед у памяці шмат каго з сучасьнікаў. І адлюстраваньне гэтага – апошні разьдзел кнігі, дзе сабраныя прысьвечаныя дзяячцы публікацыі, успаміны, артыкулы, як прыжыцьцёвыя, гэтак і пасьмяротныя. Тацьцяна Антонава, Сяргей Панізьнік, Янка Запруднік, Раіса Жук-Грышкевіч, Міхась Кавыль, Ганна Сурмач, Сяржук Сокалаў-Воюш, Уладзімер Арлоў, Ганна Запартыка, Уладзіслаў Гарбацкі, Надзея Старавойтава і іншыя згадваюць Зору Кіпель, яе працу, спатканьні зь ёю.

Важна адзначыць, што ва ўсіх тэкстах кнігі, акрамя спадарыні Зоры, ёсьць і яшчэ адзін герой – ейны верны спадарожнік і сябра, чалавек, які падтрымоўваў яе ва ўсіх справах – Вітаўт Кіпель. Менавіта дзякуючы ягонай падтрымцы і імпэту і пабачыла сьвет гэтае выданьне як ягоная і нашая падзяка і ўшанаваньне памяці паважанай дасьледніцы.

***Натальля ГАРДЗІЕНКА***

Прэзэнтацыя кнігі ***“Зора Кіпель”*** адбудзецца **22-га верасьня 2019 году** пасьля багаслужбы ў царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку, Нью-Джэрзі, па адрасу:
***9 River Road***
***Highland Park, NJ 08904***

# Жніўеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 10 жніўня, у Доме Маракоў прайшоў чарговы, жнівеньскі, сход Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку старшыня сп. Віталь Зайка, распавёў пра пляны арганізацыі на бліжэйшыя месяцы, а менавіта, прэзэнтацыі дзьвух кнігаў па гісторыі беларускай іміграцыі ў ЗША з удзелам рэдактаркі Натальлі Гардзіенка ў верасьні і прэзэнтацыю альманаха “Беларус” за 2019 год у лістападзе месяцы. Таксама закраналася мажлівасьць правядзеньня пратэстных акцыяў падчас сэсіі Генасамблеі ААН у Нью-Ёрку ў верасьні.

Затым са сваімі ўражаннямі ад наведваньня Беларусі ў ліпені месяцы выступіў скарбнік “Пагоні” сп. Віктар Едзіновіч. Ён адзначыў, што падчас паездкі склалася ўражаньне пра ўзрослую пагрозу незалежнасьці Беларусі праз ціск з боку Расеі й бязглуздую гульню Лукашэнкі па гандлі сувэрэнітэтам краіны для атрыманьня танных энэрганосьбітаў, якая ўжо выходзіць у эндшпіль і расейскія “сюзэрэны” заяўляюць пра патрэбу “пашырэньня інтэграцыі”, то бок інкарпарацыі краіны ў склад Расейскай Фэдэрацыі.

Потым адбылася прэзэнтацыя курсаў па навучаньні ў галіне інфармацыйных тэхнялёгіяў (IT) “Сынтакс Тэхналёгіі”. На сход “Пагоні” прыйшлі тры прадстаўнікі “Сынтаксу” і распавялі пра пэрспэктывы навучання й працаўладкаваньня, пра сваю працу ў гэтай галіне, пра новы набор навучэнцаў, што пачаўся ў жніўні. Першым выступіў адзін з сузаснавальнікаў “Сынтаксу” сп. Самір Джавад, як даў агляд прафэсіяў у галіне IT-тэхналёгіяў, акрэсьліў іх разнастайнасьць і сэгмэнты дзейнасьці ў межах гэтых прафэсіяў і падкрэсьліў, што ў цяперашні час надзвычай востра стаіць патрэба ў IT-спэцыялістах, калі адміністрацыя прэзыдэнта Трампа значна скараціла колькасьць працоўных візаў. Гэта падвышае шанцы для працаўладкаваньня тых, хто прайшоў кароткатэрміновы (паўгода або менш) курс, званы “буткэмпам”, або “курс маладога байца”, для набыцьця ведаў у IT-галіне па-за межамі каледжаў або ўнівэрсытэтаў. Гэтыя буткэмпы зьяўляюцца адным з рэальных выйсьцяў па задавальненьні патрэбаў рынку, і “Сынтакс” ёсьць адным з такіх буткэмпаў. На сёнешні момант у ім ужо навучаецца шэраг сябраў Згуртаваньня “Пагоня”, праз якіх і была падрыхтаваная гэтая сустрэча. Буткэмпы могуць таксама мець досыць высокі адукацыйны рэйтынг, як стала з Флэтайран-школай у Нью-Ёрку, пра якую апавядала сп-чня Ходзька на адным з папярэдніх сходаў. Цяпер “Сынтакс” прапаноўвае праграму пераважна для навучаньня тэстараў – выпрабавальнікаў праграмнага забясьпечаньня, але гэтая спэцыяльнасьць даволі ўнівэрсальная, і яе пасьля можна трансфармаваць, з атрыманьнем дадатковых ведаў, у іншыя запатрабаваныя спэцыяльнасьці.

“Сынтакс” базуецца ў Вірджыніі, але праз сыстэму дыстанцыйнага навучаньня і сеціва прыцягвае навучэнцаў з усіх куткоў ЗША, ад Тэхасу і Місуры да Нью-Ёрку. Затым з падрабязнасьцямі, што тычацца навучальнага працэсу, выступіла выкладчыца “Сынтаксу” сп-ня Асэль Умурзакава, якая распавяла пра асаблівасьці навучаньня празь сеціва, пра прадметы, што выкладаюцца на курсах, пра дапамогу, якую аказваюць прадстаўнікі “Сынтаксу” пры пацаўладкаваньні. Яна таксама адзначыла, што з новага навучальнага сэмэстру тыя, што скончыць курсы “Сынтаксу”, пасьпяхова пройдуць выпускны іспыт, і ня знойдуць працы на працягу паўгода – атрымаюць назад грошы за навучаньне.

Затым госьці сходу адказалі на пытаньні прысутных, у тым ліку якія спэцыяльнасьці рыхтуюцца “Сынтаксам” (у асноўным automation tester, ёсьць пляны для full stack developer, data specialist), які фармат заняткаў, працягласьць навучаньня і ягоны кошт,  на якія заробкі можна спадзявацца пасьля сканчэньня курсаў. Аб сваім досьведзе навучаньня ў “Сынтаксе” распавялі сп. сп. Аляксей Цыбулька, Дзяніс Шкураценка і Зьміцер Немчыновіч. Яны таксама падзякавалі прадстаўнікам “Сынтаксу” за адукацыю. Сярод гасьцей быў таксама другі сузаснавальнік “Сынтаксу” сп. Алішэр Анвараў.

Пасьля прысутныя зрабілі супольны фатаздымак і мелі нагоду задаць дадатковыя пытаньні гасьцям, а таксама калегавацца зь землкамі пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**



# Расшыфроўка кодавых словаў і фразаў левакоў

Свабода чалавека можа існаваць толькі ў дакладным успрыманьні рэальнасьці. Скажаючыя розум выдумкі трэба няшчадна выкрываць. Калі не рабіць гэтага, то мы і далей будзем залежаць ад чараў падману і двудушша, накінутых палітыкамі і бюракратамі. Дзяржаўная улада – гэта паразытычны культ, замаскаваны асаблівою мовою кодавых словаў і фразаў. Не прыцягваючы ўвагі, агенты ўплыву скажаюць у мове ключавыя словы. А гэта прытупляе, зьніжае і скажае нашыя думкі на карысьць маючых уладу. Гэты працэс такі паступовы, што здаецца незаўважным. Зь яго разьвіваецца вельмі дасканалы кантроль над масамі і іхняе рабаваньне. Калі нашыя словы маніпулююцца, то нашыя думкі таксама маніпулююцца ў фальшывую рэальнасьць і ілюзіі. Такім чынам нашая канкурэнтназдольнасьць і інстынкт выжываньня зьніжаюцца на карысьць дзяржаўных уладаў. Толькі нямногія ведаюць пра існаваньне агентаў уплыву. Яны нябачна працуюць за кулісамі, ствараючы новыя словы і фразы, што скажаюць мову і зрываюць наш працэс думаньня. Яны робяць так, што дабро здаецца злом, а зло дабром, і падманам прымушаюць нас альтруістычна адмовіцца ад нашых свабодаў.

Але гэта не альтруізм у літаральным сэньсе. Тут – гэта крывадушнасьць, падман, эгатызм, прага грошай, злачынная палітыка, кумаўство, брацтва таемных таварыстваў, маніпуляцыя грамадзкай сьвядомасьцю. Гэта маскіроўка для падману. Яна прасоўвае альтруізм з такімі лёзунгамі як "для большага дабра", "для дзяцей", "роўнасьць для ўсіх". Пераклаўшы, гэта азначае – адмоўцеся ад таго, што маеце, каб мы маглі стаць роўнымі.

Альтруізм – прадукт лібэральнай сьвядомасьці. Ён асноўваецца на групізме, які ёсьць канцэпцыяй эгалітарызму. Гэта супрацьлегласьць індывідуалізму і адказнасьці. Гэта аснова, вакол якой закручаныя ўсе схемы пераразьмеркаваньня.

Эдвард Бэрні, пляменьнік Зігмунда Фрэйда, – бацька маніпулятыўнай прапаганды ў Амэрыцы. Ён сказаў, што масавае пераканаsuccessful і масавы гіпноз – гэта аснова так званай дэмакратыі. У сваёй кнізе "Прапаганда" Э. Бэрні пісаў: "Тыя, хто маніпулюе нябачным мэханізмам грамадзтва, складаюць нябачны ўрад, які і ёсьць сапраўднай кіруючай сілай краіны. Намі кіруюць, нашая сьвядомасьць лепіцца, нашыя густы фармуюцца, нашыя ідэі, у вялікай меры, падказаныя людзьмі, пра якіх мы ніколі ня чулі.

Амаль у кожным аспэкце нашага жыцьця ў сфэрах палітыкі, бізнэсу, сацыяльных адносінаў, этыкі дамінуе адносна малая колькасьць асобаў, якія разумеюць мэнтальны працэс і сацыяльныя звычкі масаў. Гэта тыя, хто цягае за ніткі, якія кантралююць грамадзкую сьвядомасьць."

Новыя словы і фразы ўваходзяць у нашае жыцьцё ўвесь час. Яны выцясьняюць старыя, што ўжываліся вякамі. Тэрміны як "грамадзкая палітыка", што ў сапраўднасьці значаць дзяржаўная палітыка, "тэорыя змовы" азначае любы выклік звыклым поглядам, "экстрэмістам" можна назваць любога, хто выступае за малы ўрад і вяртаньне да канстытуцыі, а "тэрарыстам" можа стаць любы, калі так вырашыць дзяржава, уключаючы грамадзян, якія выступаюць за свабоду. Усё вышэйпералічанае – старыя кодавыя словы.

Дэмакратыя – напэўна найбольш зманлівае з такіх словаў. Яно мае на ўвазе адзін чалавек – адзін голас, а на самой справе адпавядае кіруемаму крымінальнікамі калектывізму і таталітарызму.

Ніжэй пададзеныя некаторыя новыя кодавыя словы, што сёньня часта ўжываюцца ў дыскусіях. Трэба ведаць іх і тое, што ў сапраўднасьці маюць на ўвазе людзі, якія іх ужываюць.

**Адукаваны/адукацыя** – цяпер гэта сыстэма індактрынацыі й ідэалягічнай апрацоўкі пакланеньня дзяржаве і псэўдагісторыі. Чалавек, які прайшоў праз яе, увасабляе погляды гэтай сыстэмы і амаль цалкам адарваны ад рэальнага жыцьця. Звычайна ён становіцца яшчэ тупейшым, чым быў да пачатку такой адукацыі.

Тэст, распрацаваны для NASA для вызначэньня ўзроўню крэатыўнасьці інжынэраў і навукоўцаў, быў дадзены дзецям 4-5-гадовага ўзросту. Тэст паказаў, што 98% дзяцей былі творчымі геніямі. Гэты тэст давалі прайсьці дзецям праз кожныя пяць гадоў і выявілі, што ў 10-гадовым узросьце геніяў стала толькі 30%, у 15 гадоў адсотак упаў да 12. У 25 гадоў толькі 2% людзей заставаліся творчымі геніямі. Гэта дэманструе наколькі магутны ўплыў індактрынацыі і пасьлядоўнай прапаганды масавых мэдыяў на розум чалавека.

**Таксічная мужчынскасьць** (toxic masculinity) – як і "ненавісьніцкія выказваньні" (hate speech) і "штурмавая зброя" (assault weapon) ня мае дакладнага вызначэньня, але ўжываецца да такіх паняцьцяў, якія робяць мужчыну мужчынам: сіла, здольнасьць абараняць і вырашаць праблемы, рашучасьць, эмацыйны кантроль, трываласьць, сьмеласьць. Гэтыя рысы патрабуюць індывідуальнасьці, а гэта анафема калектывізму. Вось чаму гэта зьяўляецца часткаю неафіцыйнай палітыкі ў ЗША па фэмінізацыі мужчынаў для выраўнаньня палоў. Гэта ёсьць фундамэнтальнаю часткаю фэмінізму.

**Разнастайнасьць** (diversity) – гэтае слова азначае расавую, рэлігійную і сэксуальную талерантнасьць, але сёньня мае на ўвазе нешта зусім іншае. А менавіта, адмаўленьне каштоўнасьцяў заходняй юда-хрысьціянскай цывілізацыі і замена іх на сэкулярызм, амаральнасьць і калектывізм. Людзі, што дасягнулі разнастайнасьці, гэта тыя, хто адпавядае гэтай навязанай догме.

**Сацыяльная справядлівасьць** (social justice) – як і тэрмін "прывілей белага" (white privilege) мае на ўвазе, што ўсе пасьпяховыя белыя людзі дасягнулі свайго статусу толькі дзякуючы колеру сваёй скуры і таму, што сыстэма перакручаная на іхнюю карысьць. Сацыяльная справядлівасьць сёньня значыць, што мяншыні аўтаматычна абяздоленыя, бо яны маюць статус мяншыняў, і ім патрэбная грашовая кампэнсацыя ці адмысловыя законы, якія б гарантавалі ім асаблівыя прывілеі. Прасоўваньне сацыяльнай справядлівасьці – гэта перакульваньне з ног на галаву паняцьця роўных магчымасьцяў для дасягненьня аднолькавага выніку. Гэтае паняцьце найчасьцей выкарыстоўваецца сацыяльнымі марксістамі для нагнятаньня расавай і сэксуальнай варожасьці, а таксама для затыканьня ратоў сваім апанэнтам, якія прытрымліваецца кансэрватыўных і хрысьціянскіх поглядаў.

**Абструкцыяніст** (obstructionist) – традыцыйна абазначае любога, хто нязгодны альбо супрацьстаўляе сябе здароваму глузду. Змаганьне з дэструктывізмам сёньня – гэта простая дарога да палітычнага калектывізму, антыхрысьціянскай палітыкі і разбуральных праграмаў адкрытых межаў і абмежаваньня грамадзянскіх свабодаў.

**Экстрэміст** (extremist) – гэтае слова часта ўжываецца як сынонім абструкцыяніста і адносіцца да тых, хто падтрымлівае меншае ўмяшаньне дзяржавы ў жыцьцё грамадзян, выступае супраць парушэньняў канстытуцыі і адмаўляе ўсялякія кампрамісы па канстытуцыйных прынцыпах.

**Мэдычна недакладная інфармацыя** (medically inaccurate information) – гэта кантрольная фраза, што сыходзіць са штабоў фармацэўтычных кампаніяў і мае на ўвазе любую інфармацыю неадобраную традыцыйнай аляпатычнай мэдыцынай. Прапаганда фармакампаніяў сёньня пераканала людзей, што лекі здольныя лечаць хваробы, а здаровае харчаваньне і натуральныя дабаўкі неэфэктыўныя і дзіўнаватыя, накшталт, калдаўства і загавораў.

*заканчэньне на бачыне 4*

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## 51-шы штат

Наіўныя людзі заўсёды сьвята вераць у сусьветны парадак. Напрыклад у тое, што Вэрсальская дамова вечная. А менш чым пра 20 гадоў прыходзяць аншлюзы, анэксіі і бамбардзіроўкі. Наступнае пакаленьне наіўных паверыла ў Ялцінскі парадак. Не пасьпелі высахнуць подпісы падпісантаў, як той парадак стаўся ўмоўнасьцю. Чарговае пакаленьне людзей, якія ня робяць высноваў з гісторыі, былі сьвята перакананыя, што пасьля развалу СССР запануе вечны мір, сусьветнае суладзьдзе і непарушнасьць межаў. Для некаторых такімі гарантамі было існаваньне НАТА, так як да яго раней была Ліга Нацый. Для іншых такімі гарантамі зьяўляюцца білятэральныя дамовы непасрэдна паміж краінамі, або гаранты з боку моцных і вялікіх, Францыі або Брытаніі. Сьмех дый годзе. Для іх анэксія Крыму сталася сапраўдным адкрыцьцём, бо аб’ектыўных фактараў і агульнай дынамікі яны проста ня ўлічваюць. Адмаўляюцца бачыць і думаць. У іх ёсьць вера ў подпісы і паперу, і гэтая вера мацнейшая за лёгіку і факты.

Сапраўдны шок гэтыя тхаркі перажылі калі пачулі заявы Доналда Трампа пра жаданьне выкупіць Грэнляндыю. Для іх фармальная прыналежнасьць самага вялікага вострава ў сьвеце да пя-




цімільённай Даніі, памерам зь Менскую вобласьць, павінна быць дастатковай гарантыяй непарушнасьці і недатыкальнасьці. Тое, што востраў той знаходзіцца за тысячы кілямэтраў ад свайго каралеўства, уключаны быў праз каляніну Нарвэгіі, мае 50 тысяч генэтычна нягоднага для Даніі насельніцтва, іншую мову, іншы мэнталітэт і гісторыю, яны ведаць ня хочуць. Востраў фактычна аўтаномны з 1979 году і самаўрадавы з 2009-га. На ім мноства карысных выкапняў, якія на сёньня Даніяй ніяк не эксплюатуюцца з-за адсутнасьці інвэстыцый і тэхналягічна-прамысловага патэнцыялу. Не дапамагае таксама інфармацыя пра прысутнасьць у Грэнляндыі вялікай і стратэгічнай амэрыканскай вайсковай базы. Цікава, як Данія будзе бараніць сваю калёнію, калі Амэрыка захоча вырашаць пытаньне больш прагматычна. Данія і ЗША саюзьнікі ў НАТА, а НАТА гэта фактычнае камандаваньне Амэрыкі. Хто дапаможа маленькай Даніі ў такой вайне? Можа тыя наіўныя, якія вераць у мірныя дамовы і ва ўзгодненыя сусьветны лад?

Не. Яны рабіць нічога ня будуць. Ім дастаткова веры ва ўсё тое, што ніколі не працавала і працаваць ня будзе. Мульці-кульці. Братэрства. Роўнасьць. Сацыялізм.

P.S. І пытаньне: чаму Грэнляндыю, калі ня цалкам, дык хаця б значную частку зямлі, дагэтуль не выкупіў мільярдэр Аль Гор? Ён жа сьвята перакананы ў глябальным пацяпленьні. Ці ўсё ж ня сьвята?

***Віталь ВОРАНАЎ***

## Расшыфроўка кодавых словаў і фразаў

*заканчэньне з бачыны 3*

**Белы нацыяналізм/панаваньне белых** (white nationalism/white supremacy) – расісцкі тэрмін ужываны левакамі для дэлегітымізацыі папулізму і няўгодных палітыкаў. Ад пачатку гэтыя тэрміны выкарыстоўвалі для затыканьня ратоў і запалохваньня тых, хто супрацьстаяў сыянізму. Сёньня іх ужываюць супраць тых, хто падтрымлівае моцныя межы, выкананьне іміграцыйных законаў, адмаўляе глябалізм, палітычнае кумаўство і крупцыю. Сёньня нават афра-амэрыканцаў могуць назваць белымі нацыяналістамі, калі яны падтрымоўваюць амэрыканскія кансэрватыўныя ідэалы.

***Я. З.***

### Уплаты ў Згуртаваньне Складкі й ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| А. Галюкевіч | 60 |
| У. Косак | 60 |
| А. Міхалюк | 60 |
| Ю. Мятлюк | 60 |
| С. Неўдах | 60 |
| К. Пратасеня | 60 |
| Г. Саенка | 60 |

**Усім шчыры дзякуй!**

Шаноўныя сябры Згуртаваньня “Пагоня”, калі ласка, сваечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь “Весткі й Паведамленьні”. *(стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча).*

### Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **21-га верасьня 2019 г.** а **6-й** вечара ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| А. Галюкевіч | 30 |
| У. Косак | 30 |
| А. Міхалюк | 30 |
| Ю. Мятлюк | 30 |
| С. Неўдах | 30 |
| К. Пратасеня | 30 |
| Г. Саенка | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

На сходзе 21 верасьня заплянаваная прэзэнтацыя кнігаў *“Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы”* **Зьмітра Саўкі** і *“Газэты “Бацькаўшчына” і “Беларус”. Выбранае”* з удзелам **Натальлі Гардзіенка**, рэдактаркі першай з гэтых кніг і адной з укладальніц другой *(разам зь Лявонам Юрэвічам).*